

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня!*
*М. Багдановіч.*

**№6 (278) КРАСАВІК 2020 ГОД**

ДАПАМОГА

# ГУМАНІТАРНАЯ ДАМАМОГА З МІНСКА

**«Яны ня могуць папрасіць дапамогі адкрыта». Рэпартаж з Шуміліна, дзе ўсе носяць маскі, а настаўніцы шыюць камбінэзоны лекарам.**

Афіцыйна вядома толькі пра аднаго хворага на каранавірус жыхара райцэнтру Шуміліна ў Віцебскай вобласьці. Неафіцыйна паведамляюць, што каранавірусам тут заразіліся нават мэдыкі раённай лякарні.

**Прамзона**

Менск, раніца. Прамзона ля трактарнага заводу. Пыл, шум цягнікоў. Валянтэры Зьміцер і Вадзім грузяць у свой легкавік вялікія кардонкі з мэдыцынскімі рэсьпіратарамі і камбінэзонамі. Зьміцер радуецца: рэсьпіратараў удалося «ўхапіць» утрая больш, чым разьлічваў.

«Мы ўсё гэта тут набылі, у пастаўшчыкоў, — расказвае Зьміцер. — І вялікі дзякуй, бо прадаюць амаль па сабекошце. Знайсьці цяжка толькі, літаральна перахопліваем тавар. Сёньня маскі, рэсьпіратары — гэта вельмі запатрабавана. У нас тут 300 камбінэзонаў, 1280 рэсьпіратараў адной клясы аховы і яшчэ 1000 іншай. Яшчэ 50 пар мэдыцынскіх акуляраў будзе. Гэта ўсё за грошы, якія зьбіраем у інтэрнэце. Яшчэ ёсьць фірмы, донары, якія даюць грошы. Але вельмі складана знайсьці такі тавар цяпер. Мы дамаўляліся на 280 рэсьпіратараў. Нейкім цудам удалося здабыць 2280. З нас нават грошай пакуль не ўзялі, потым будзем пералічваць».

Груз з мэдыцынскіх камбінэзонаў, рэсьпіратараў і акуляраў, які Зьміцер вязе ў Шуміліна, агулам каштаваў каля 2500 рублёў. Невялікі райцэнтар у Віцебскай вобласьці выбралі, бо некалькі дзён таму ў тэлеграм-каналах зьявіўся скрыншот допісу з подпісам намесьніцы галоўнага лекара Шумілінскай раённай лякарні. У ім доктар просіць дапамогі, таму што пры адсутнасьці ахоўных сродкаў каранавірусам пачалі заражацца самі лекары. Ужо празь дзень галоўны лекар Шуміліна абвергі гэтую інфармацыю. Валянтэры, аднак, настойваюць — дапамога ў Шуміліне ўсё ж трэба.

«Учора туды ўжо даставілі частку абсталяваньня, плястыкавыя экраны на твар для лекараў, — гаворыць Зьміцер. — Мы зьвязаліся зь імі. Дапамога сапраўды патрэбна.

Толькі адкрыта яны пра гэта ня могуць расказаць. Афіцыйна ў нас усё пад кантролем у шпіталях».

Ад Віцебску да Шуміліна каля 40 кілямэтраў. Зь Менску ехаць тры гадзіны. Гэта пасёлак гарадзкога тыпу — адзін зь нешматлікіх беларускіх райцэнтраў, які нават ня мае статусу гораду. Райвыканкам, пракуратура, дзьве школы, касьцёл, царква і лякарня на ўскрайку. Ня новая, але дастаткова вялікая. Тры паверхі, два заезды.

«Масак няма і ня будзе ўжо, як мінімум да панядзелка ня будзе, — кажа гаваркая аптэкарка з аптэкі ля вакзала. — Пазаўчора прывезьлі, людзі ўсё разабралі адразу. Ці прывязуць яшчэ ў наступны панядзелак, я ня ведаю. Антысэптык бярыце. Але ёсьць толькі сьпіртавы».

Няма мэдыцынскіх масак і ў наступнай аптэцы. Куды яны ўсе падзеліся, лёгка зразумець. Іх колькасьць на тварах шумілінцаў значна перавышае сталічныя паказчыкі. З закрытым тварам ледзьве ня кожны другі сустрэты на вуліцы Шуміліна чалавек. А таксама прадавачкі ў крамах, кіроўцы аўтобусаў на аўтавакзале, супрацоўніцы кавярняў.

«Працуем толькі да 16-й, — кажа нам адна зь іх. — Але я вам зраблю кавы. Чаму да 16-й? Людзей таму што няма. Усё каранавірус вінаваты, ніхто ня ходзіць цяпер у кавярню».

**Такія абвесткі на многіх установах**

Мяркуючы па абвестках на дзьвярах крамаў, хадзіць людзі ў Шуміліна перасталі не толькі ў кавярні. Частка гандлёвых пунктаў закрылася, некаторыя адкрытыя «з 10 да 13». На дзьвярах дзяржаўных установаў папярэджаньне, што наведнікам без мэдыцынскіх масак там зусім ня ўзрадуюцца. У адным з двароў побач са школай маскі сушацца на вяроўцы для памытай бялізны. Зусім як політэтыленавыя пакеты ў 90-х.

«Страшна, хлопцы, страшна стала, — дзеліцца ўражаньнямі ад новага жыцьця ў Шуміліне мясцовы жыхар, які вырашыў папрасіць у нас 10 капеек. — Мне трэба ў паліклініку ісьці, на плянавы агляд. А я баюся. Мая кобра (жонка. — РС) была ў панядзелак у бальніцы. Сказала, што там усё перапоўнена гэтымі, з каранавірусам. Ці праўда, што дактары таксама хварэюць, я ня ведаю. Ня чуў».

**Шумілінскі райвыканкам**

Сядзіба мясцовай улады ў Шуміліне ці ня самы рэспэктабэльны будынак. Вялікая плошча, дзяржаўны сьцяг, дошка гонару з партрэтамі.

«Прабачце, апрацуйце рукі, калі ласка, — спыняе маю спробу праравацца да шумілінскіх чыноўнікаў міліцыянт у фае. — Цяпер можаце ісьці. 118-ы кабінэт. Аддзел ідэалягічнай працы, культуры і спраў моладзі».

Яго кіраўніца Валянціна Навіцкая выслухоўвае пытаньні пра каранавірус у раёне, нястачу ахоўных сродкаў і магчымыя выпадкі захворваньня лекараў і гаворыць, што нічога пра гэта ня ведае.

«Я толькі тое ведаю, што мне кажуць, — гаворыць шумілінская ідэалягіня. — Што на сайт скажуць вывесіць, тое я і ведаю. У нас створаны апэратыўны штаб у раёне. Там лепш абазнаныя ў гэтым усім. Хто туды ўваходзіць? Дакладна не скажу. Намесьніца старшыні райвыканкама ў сацыяльных пытаньнях Ірына Шалахава дакладна, зь лякарні людзі таксама. Я дакладна і ня ведаю».

Шуміліна - адзін з самых невялічкіх беларускіх райцэнтраў, усяго 7600 жыхароў

Чыноўніца ахвотна расказвае пра тое, што ў раёне мабілізавалі ўсе сілы на пашыў масак. Шыюць іх і ў мясцовым Доме рамёстваў, і ў іншых месцах. Ці ёсьць маскі ў продажы ў аптэках, кіраўніца ідэалягічнага аддзелу таксама сказаць ня можа. Але запэўнівае, што антысэптыкаў і масак у Шумілінскім раёне хапае. Прынамсі, супрацоўнікі райвыканкаму іх носяць на працы амаль пагалоўна. Расказвае таксама, што некаторых падначаленых пасьля пачатку росту захворваньняў на каранавірус у вобласьці адпусьціла ў водпуск «па ўласным жаданьні». Але такіх няшмат, «прыкладна пяць чалавек». На разьвітаньне дадае, што ўсе масавыя мерапрыемствы ў Шуміліне адменены яшчэ ў сакавіку.

**Школа**

Вакацыі ў Шумілінскай сярэдняй школе № 1 імя героя Савецкага Саюзу П. А.

***(працяг на стр. 2)***

COVID-19

# ПЕРШЫ ПАЦЫЕНТ

**У Шуміліне быў выяўлены хворы на каранавірус COVID-19.**

У дзень 3 красавіка зьявілася інфармацыя пра магчымы выпадак каранавірусу ў гарадзкім пасёлку Шуміліне, цэнтры Шумілінскага раёну. Каранавірус выявілі ў мужчыны з райцэнтру. Ягоная жонка трапіла пад карантын, а памяшканьне ўстановы, у якой яна працуе, дэзынфікавалі спэцыялісты. Пра гэта Свабодзе паведамілі ў райвыканкаме.

«На гэты момант чалавек знаходзіцца ва ўстанове аховы здароўя, – паведамілі Свабодзе ў Шумілінскім райвыканкаме. – Выпадак захворваньня (на COVID-19) ёсьць. Пакуль, дзякуй Богу, усё добра».

**svaboda.org**

# ЛЕКАРЫ ЗАБІЛІ ТРЫВОГУ

**Галоўны ўрач абвяргае інфармацыю, што ў Шумілінскай больніцы хварэюць 30% лекараў.**

6 красавіка ў сацыяльных сетках зьявіліся паведамленьні пра тое, што Шумілінскую ЦРБ перапрафілявалі для лячэньня хворых на каронавірус і ў тэрміновым парадку пачалі выпісваць тых, хто ляжаў з іншымі дыягназамі.

Амаль адначасна зьявіліся допісы, у якіх паведамлялася, што лекары б'юць трывогу, бо засьцерагальных сродкаў для бясьпечнай працы не хапае.

Допіс ад імя намесьніцы галоўнага ўрача Шумілінскай ЦРБ зьявіўся і ў групе Тэлеграм-каналу «Каронавірус-Віцебск. Дапамога лекарам, гораду, жыхарам».

Паведамлялася, што ў райбольніцы адсутнічаюць сродкі індывідуальнай засьцярогі, 30% шумілінскіх мэдыкаў шпіталізаваныя, а за дзень у больніцу паступіла больш за 50 асобаў з сымптомамі каронавірусу.

Але галоўны ўрач раённай больніцы Вольга Скарабагатая гэтую інфармацыю «Віцебскай вясьне» не пацьвярджае:

«На афіцыйным сайце райвыканкаму такая інфармацыя не зьявілася. На сайце Міністэрства аховы здароўя такая інфармацыя не зьявілася. Калі нейкія патрэбныя тлумачэньні, то хто разьмяшчае гэтыя рэчы – зь імі і зьвязвайцеся. Мы сваю інфармацыю размесьцім».

На пытаньне пра 30% хворых мэдыкаў заявіла:

«Пра гэта я буду размаўляць на паседжаньні. Яна (аўтар паста – ВВ) будзе пісаць гэтыя пытаньні зноў у сацыяльных сетках. Ёй не давалі інфармацыю пра 30 адсоткаў мэдработнікаў. Ніхто».

«Я цяпер занятая мэдычнымі пытаньнямі, а не сайтамі. Наколькі гэта адпавядае сапраўднасьці, яна вам распавядзе ў сваім інтэрвію ў хуткай будучыні», – дадала галоўны ўрач райбольніцы і паклала слухаўку.

На жаль, зьвязацца з намесьніцай галоўнага ўрача мэдычнай установы нам не ўдалося.

**vitebskspring.org**

# «ПАХАВАЛІ Ў ЗАКРЫТАЙ ТРУНЕ»

**Сын захварэлага Юрыя Магера Аляксандар паведаміў Свабодзе, што яго бацька памёр 10 красавіка. Пахаваньне адбылося 11 красавіка, хавалі Юрыя ў закрытай труне.**

Шумілінскі цэнтральны раёны шпіталь, ілюстрацыйнае фота

Пра выпадак заражэньня каранавірусам у Шумілінскім раёне стала вядома 3 красавіка.

Сын захварэлага Юрыя Магера Аляксандар паведаміў Свабодзе, што яго бацька памёр 10 красавіка. Пахаваньне адбылося 11 красавіка, хавалі Юрыя ў закрытай труне.

«Як бацька мог заразіцца, я ня ведаю, — расказвае сын памерлага. — Ён меў хворыя ныркі. І яго зь мясцовага шпіталя вазілі ў Віцебск на дыяліз, на мэдыцынскім аўтамабілі. Разам зь ім вазілі аналізы (хворых на каранавірус. — РС) ў Віцебск. Бацька асабліва нікуды не выходзіў з дому, ён меў інваліднасьць».

Аляксандар расказвае, што з бацькам бачыўся апошні раз 14 сакавіка. Яшчэ ў канцы сакавіка Юры Магер адчуваў сябе нармальна.

«Бацька нечым на дачы займаўся, працаваў, а ўвечары высокая тэмпэратура і яго адразу забралі, зрабілі аналіз, — працягвае Аляксандар. — Аналіз у маці таксама станоўчы, яна цяпер у шпіталі ў Шуміліна. Яе адразу ў Обаль вазілі, потым у Гарадок. У выніку назад у Шуміліна вярнулі. Мяне тады не было тут, я зьязджаў у Расею. Калі бацька быў у шпіталі, мы размаўлялі па вайбэры. Ён такі чалавек, які заўсёды гаворыць, што ўсё нармальна, што ўсё добра».

Юрыю Магеру было 60 гадоў. Намесьніца старшыні Шумілінскага райвыканкама Ірына Шалахава, якая ўваходзіць у мясцовы штаб барацьбы з распаўсюдам эпідэміі, камэнтаваць першы выпадак сьмерці ў Шумілінскім раёне адмовілася.

**svaboda.org**

ДАПАМОГА

(пачатак на стр. 1)
Акуцыёнка, як і ва ўсёй Беларусі, падоўжылі да 13 красавіка. Дзяцей у клясах няма, ходзяць у школу толькі настаўнікі і тэхнічныя супрацоўнікі. Занятыя яны зусім не падрыхтоўкай да заняткаў.

«Вы заходзьце, заходзьце, маскі толькі надзеньце, маеце?
— пытаецца дырэктарка школы Натальля Мясаедава.
— Мы тут усе ў масках цяпер, у памяшканьнях. Працуем, шыем камбінэзоны для мэдыкаў з бальніцы. Учора пачалі шыць, яны самі да нас зьвярнуліся. Пакуль камбінэзоны шыем. Калі ўрокі пачнуцца, то маскі зможам шыць».

Настаўніцы школы №1 шыюць камбінэзоны для лекараў шумілінскага шпіталя

Дырэктарка водзіць нас з клясы ў клясу. На састаўленых партах расьсьцелена белая спэцыяльная тканіна. На яе настаўніцы кладуць, прыціскаючы падручнікамі, папяровыя лякалы будучых камбінэзонаў. Іх зрабілі самі па ўзоры камбінэзона, прывезенага мэдыкамі зь лякарні. Сшываюць усё на машынках у іншай клясе. Працуюць каля 15 настаўніц. За першы дзень пашылі дзясятак касьцюмаў, за другі ўжо больш за 50.

Камбінэзоны настаўніцы шыюць з матэрыялу, які набылі на ўласныя грошы

Матэрыял для першых камбінэзонаў прывезьлі спонсары. Калі ён скончыўся, настаўніцы скінуліся і купілі яшчэ. Патрацілі каля 1000 рублёў.

**Шумілінскі раённы шпіталь**

Рэсьпіратары, камбінэзоны і акуляры зь Менску ў Шуміліна валянтэры прывезьлі бліжэй да вечара. Журналістаў папрасілі не прысутнічаць, таму што «ўсе запалоханыя, пад подпісамі, і лепш не нашкодзіць». Лекары прымалі дапамогу на паркоўцы ля шпіталя. Моцна за яе дзякавалі.

Паводле інфармацыі Свабоды, намесьніцу галоўнага ўрача Шумілінскай раённай лякарні, якая напісала ў тэлеграм-канал пра нястачу ахоўных сродкаў, ужо выклікалі на размову ў пракуратуру. Станоўчыя вынікі аналізу на каранавірус, паводле неафіцыйнай інфармацыі, маюць тры лекары раённай лякарні, двое зь іх працавалі на «хуткай». Намесьніца старшыні Шумілінскага райвыканкаму ў сацыяльных пытаньнях Ірына Шалахава, якая ўваходзіць у раённы штаб барацьбы з распаўсюдам інфэкцыі, сустрэцца з журналістамі Свабоды не змагла з прычыны адсутнасьці часу.

**svaboda.org**

ЗДАРЭННІ

# НЯЎДАЛЫ ЎЦЯКАЧ

**Жыхар вёскі Лескавічы на аўтамабілі «Сеат» уцякаў ад шумілінскіх даішнікаў.**

Падчас дзяжурства ў Лескавічах супрацоўнікі ДАІ паспрабавалі спыніць мясцовага жыхара, які ехаў на аўтамабілі «Сеат».

Але мужчына не выканаў патрабаванні работнікаў дарожна-патрульнай службы.

Як потым высветлілася, вадзіцель быў у стане алкагольнага ап'янення. Вяскоўцу пагражае штраф ад 50 да 100 БВ і пазбаўленне вадзіцельскіх правоў ад 3 да 5 гадоў.

ГІСТОРЫЯ РАЁНА

# ТРЫ ДОЎГІЯ ГАДЫ

**Тры доўгія гады ШумілінШчына знаходзілася пад нямецка-фашысцкай акупацыяй. ШумілінШчыну вораг акупаваў ў пачатку ліпеня 1941 года. Фашысты расстралялі, спалілі, замучылі каля дзвюх тысяч жыхароў, знішчылі 133 населеных пункта з 342, якія былі перад вайной, сагналі на катаржныя работы ў Германію каля 800 чалавек, спалілі разам з жыхарамі 8 вёсак.**

На тэрыторыі раёна разгарнулася магутны партызанскі супраціў, істотна падарвалі сілы ворага юныя мсціўцы Обальская камсамольская падполля.

Сведчаннем крывавых вызваленчых баёў, якія пачаліся ў лістападзе 1943-го, сталі 58 брацкіх пахаванняў, адно з якіх размешчана на рэспубліканскай трасе Р-20. На брацкіх могілках каля станцыі Ловша ў аграгарадку Мікіціха пахаваны 631 вайсковец. Імёны ўсіх байцоў ўстаноўлены.

Брацкія могілкі з'явілася пасля бою за станцыю Лоўша ў першы дзень аперацыі «Баграціён" 23 чэрвеня 1944 году. У часопісе баявых дзеянняў 6-й гвардзейскай арміі адзначаюцца «дзеянні частак 51-й гвардзейскай стралковай дывізіі за авалоданне вузлом супраціву немцаў у раёне Добрына» (вёска паблізу Лоўшы), які з'яўляўся сур'ёзнай перашкодай на шляху да Заходняй Дзвіны. Камандзір 51-й гвардзейскай стралковай дывізіі паставіў задачу 158-му гвардзейскай стралковай паліцу абысці праціўніка і забяспечыць прасоўванне асноўных сіл. Полк ўтойліва, па хмызняках і балотах, падышоў да станцыі Ловша, нечакана для немцаў уварваўся на станцыю і авалодаў ёю. Была арганізавана кругавая абарона, якая дазволіла адбіць некалькі контратак праціўніка і садзейнічаць паспяховаму наступу 23-га гвардзейскага стралковага корпуса на Шуміліна.

Асабліва жорсткія баі вяліся ў месцах моцных нямецкіх умацаванняў - уздоўж жалезнай і аўтамабільных дарог, на пануючых вышынях. Салдаты і афіцэры загінулі, змагаючыся ў баях на тэрыторыі вёсак Лоўша, Барсукі, Залужжа, Куракі, Юрава, Дворышча і іншых.

У 1960 годзе сюды перапахавалі астанкі воінаў з пахаванняў у навакольных вёсках.

Вечны супакой вызваліцелі знайшлі ў брацкай магіле шырынёй два і даўжынёй сем метраў. У 1965 году над пахаваннем узведзены чатырохметровы абеліск, увянчаны чырвонай зоркай. На гранітных плітах высечаны імёны вайскоўцаў, а сама братэрская магіла абнесена металічнай агароджай.

У 2008 годзе была праведзена рэканструкцыя помніка, і брацкія могілкі здабылі абноўлены выгляд. Школьнікі сочаць за тым, каб месца памяці заўсёды заставалася дагледжаным.

**«Я гэты нябесны квадрат не пакіну ...»**

Пакланіцца памяці бацькі прыязджае з Расіі дачка лётчыка Ігара Посахава Эльвіра. Імя гэтага афіцэра доўгі час значылася ў спісах зніклых без вестак. Вярнуць свеце героя дапамог выпадак ...

2 верасня 1962 года каля вёскі Плігаўка непадалёк ад трасы Віцебск-Полацк экскаватаршчык саўгаса «Лаўжанскі» Іваноў разам з памочнікам Піменавым выраблялі меліярацыйныя работы. У балоце на глыбіні каля двух метраў коўш наткнуўся на абломкі самалёта. У кабіне захавалася цела лётчыка. Даведацца загінулага дапамаглі дакументы і рэчы, якія выявілі пры ім, – ордэн Чырвонага Сцяга, пісталет ТТ, карта, запісная кніжка, лісты. Была яшчэ фотакартка маленькай дзяўчынкі. З палётнага ліста відаць, што самалёт Іл-2 ў адзін з чэрвеньскіх дзён 1944 года ляцеў выконваць баявое заданне.

Дзякуючы выяўленаму пасведчанні высветлілася, што клікалі загінулага Ігар Паўлавіч Посахаў. Копія пасведчання захоўваецца ў школьным музеі, партыйны білет быў перададзены ў Шумілінскі райкам партыі, ордэн Чырвонага Сцяга і дакументы – у райваенкамат, а затым частка дакументаў – у Віцебскі гісторыка-краязнаўчы музей. Характэрна, што тады жыхар вёскі Плігаўка, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, сабраў каркас патанулага самалёта.

Лётчыка пахавалі на брацкіх могілках савецкіх воінаў недалёка ад чыгуначнай станцыі Лоўша. Пра тое, што знойдзеныя парэшткі бацькі, Эльвіра даведалася з аб'явы савецкага радыё «Апошнія весткі". Дачка лётчыка разам са сваёй маці Валянцінай і пляменніцай адправілася ў Беларусь. Валянціна Міронаўна адмовілася ад прапановы перапахаваць астанкі мужа ў Маскве ці на радзіме ў горадзе Яраслаўлі. З тых часоў дачка лётчыка перыядычна бывала на брацкіх могілках у Мікіцісее. Прыязджалі на яго магілу і працоўныя Яраслаўскага металаапрацоўчага завода, дзе Ігар Посахаў працаваў да вайны слесарам. Школьнікі вялі перапіску з роднымі лётчыка.

Эскадрылля і ўся авіядывізія, у складзе якой ваяваў І. Посахаў, вылучаліся актыўнымі баявымі дзеяннямі па вызваленні Віцебска і вобласці. Лётчыкі 335-й штурмавой авіядывізіі, якой было прысвоена званне Віцебскай, рабілі па пяць і больш баявых вылетаў у дзень.

Раніцай 23 чэрвеня 1944 году Ігар Посахаў разам з лейтэнантам Мікалаем Платоновым на штурмавіках Іл-2 вылецелі ў бок Полацка. Нашы лётчыкі нанасілі па ворагу бомбавыя ўдары, абстрэльвалі з кулямётаў калоны фашысцкіх войскаў, а ў паветраным баі збілі два самалёты праціўніка. Бліскуча выканаўшы баявое заданне, вярталіся на базу. Аднак над чыгуначнай станцыяй Лоўша іх самалёты падвергнуліся моцнаму зенітнага абстрэлу. Штурмавік Ігара Посахава загарэўся і на велізарнай хуткасці ўрэзаўся ў балотны масіў.

**Навечна засталіся на вызваленай зямлі**

На мармуровых плітах – 631 прозвішча. 631 чалавечае жыццё. 631 смерць. Якутск, Тамбоў, Саратаў, Смаленск, Горкі, Волагда, Кіраў, Курск, Воронеж, Куйбышаў. Гэта геаграфія Перамогі. Кошт нашай з вамі свабоды. І нават сёння не пра кожнага з загінуўшых ёсць інфармацыя, але кожны з іх, несумненна, герой.

**vitbichi.by**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

АШУКАНСТВА

# ЯК АШУКАЛІ ПРАЗ «РАСІЙСКУЮ ІНТЭРНЭТ-КРАМУ»

**Жыхара Шуміліна зацікавіла рэклама аўтамагнітолы ў адной расійскай інтэрнэт-краме. Больш за тое, самая сучасная аўтамагнітола вядомага сусветнага брэнда прапаноўвалася ўсяго толькі за 130 рублёў. Бадай што ў іншых магазінах падобная тэхніка прадавалася як мінімум у тры разы даражэй. Мужчына ў захапленні адразу афарміў свой заказ. І сапраўды, неўзабаве яму патэлефанавалі з інтэрнэт-крамы, што заказаны тавар маецца на складзе, але пасля папярэдняй аплаты яго вышлюць пакупніку.**

Праўда, чакаў мужчына аўтамагнітолу амаль цэлы месяц. Якое было яго здзіўленне, калі замест сучаснай тэхнікі аказалася аўтамагнітола старой мадэлі, да таго ж невядомай чыёй вытворчасці. Прычым ні адзін з заяўленых параметраў не адпавядаў рэальнасці. Абураны шумілінец вырашыў пераправерыць свой заказ у інтэрнэт-краме. Аднак і старонка магазіна ў інтэрнеце знікла, як і не было. Тады вырашыў патэлефанаваць прадаўцу, але таксама пачуў падобнае: «Набраны вамі нумар не існуе».

Прыхапіўшы з сабой аўтамагнітолу, шумілінец пашоў у міліцыю, дзе і напісаў заяву, што яго ашукалі.

Раённы аддзел Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па факце махлярства ўзбудзіў крымінальную справу, санкцыі па гэтым артыкуле прадугледжваюць да трох год пазбаўлення волі. Як паведаміла следчы райаддзела Сняжана Андруковіч, зараз з расійскімі калегамі высвятляюцца ўладальнікі інтэрнэт-крамы і тэлефоннага нумара, з якога званілі мужчыну.

Каб інтэрнэт-пакупка была бяспечнай, Следчы камітэт раіць:

– у першую чаргу праверце адрас сайта ў радку браўзера, нават калі сайт вядомы і не раз выкарыстоўваўся вамі. Існуюць схемы махлярства, пры якіх ствараюцца фэйкавыя сайты з маскіроўкай пад вядомыя крамы. Самай дакладнай будзе праверка даменнага імя сайта на адным са спецыяльных сэрвісаў. У выпадку, калі праверка пакажа, што сайт быў зарэгістраваны зусім нядаўна – можна быць упэўненым у махлярстве.

Яшчэ адзін важны момант, які паказвае, што патэнцыйны пакупнік зайшоў на бяспечны сайт, гэта наяўнасць у рэсурсу дзеючага сертыфіката бяспекі. Выкарыстанне бяспечнага пратаколу пацвярджае сімвал «HTTPS» і выява зялёнага «замка» у адрасным радку. Калі названых знакаў няма, то пакупкі тут лепш не рабіць;

– калі вам прапануюць атрымваць тавар праз пошту накладным плацяжом, згаджацца можна ТОЛЬКІ пры ўмове адпраўкі з вопісам укладання. Толькі ў гэтым выпадку вы зможаце адкрыць пасылку і праверыць яе да аплаты плацяжу;

– калі патрабуюць перадаплату – адразу адмаўляйцеся ад пакупкі;

– калі сайт гандлюе без тэлефона ці тэлефон не адказвае – адмаўляйцеся ад пакупкі;

**Сяржук Крупскі**
**паводле матэрыялаў УУС**

АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# АДКРЫЦЦЁ ВЫДАТНАГА ЭКАНАМІСТА

**Прапаганда — гэта як язда на ровары. Варта толькі перастаць круціць колы — і страта раўнавагі (стабільнасці) становіцца фактам, дадзеным веласіпедысту ў вельмі балючых адчуваннях.**




У беларускім грамадстве існуе кансэнсус, што 2×2=4. Прынамсі, я быў у гэтым упэўнены да таго часу, пакуль на прасторах інтэрнэта выпадкова не наткнуўся на сайт тэлеканала «Беларусь 1».

Тэлевізар я не ўключаю ўжо шмат гадоў, а тут не ўтрымаўся. Выбарачна паспрабаваў паглядзець перадачы, якія прэтэндуюць называцца аналітычнымі. Не пашкадаваў.

Пачну з рэкламнага слогана, размешчанага на галоўнай старонцы сайта тэлеканала, *«які мае найбагацейшыя традыцыі і валодае самымі сучаснымі тэхналогіямі тэлевытворчасці»: «Галоўны тэлеканал краіны "Беларусь 1" — гэта: самая дакладная і аператыўная інфармацыя пра жыццё краіны, далёкае і блізкае замежжа»*.

Ну як тут было ўтрымацца! Дакладная і аператыўная інфармацыя заўсёды карысталася павышаным попытам у дзяржаве для народа. Ва ўмовах жа пандэміі, якая ахапіла ўвесь свет, каштоўнасць інфармацыі з такімі характарыстыкамі шматкроць павысілася.

Выпадкова абраў перадачу **«Клуб рэдактараў»** ад 13 сакавіка. Кампанія, якая брала ў ёй удзел, была не вялікая, але бардзо пажондна — пан вядучы, два паны галоўныя рэдактары дзяржаўных СМІ і ў якасці спецыяльнага госця — *«выдатны эканаміст»* (характарыстыка ад пана вядучага), доктар навук, загадчык кафедры адной з беларускіх ВНУ.

Абмяркоўваліся чатыры тэмы: каронавірус (як жа сёння без яго), нафта, долар і чорны піяр. Натуральна, не абышлося без рашучай водпаведзі расійскай прэсе, якая рэгулярна гоніць хвалю наконт нахлебніцтва Беларусі. Далей дазволю сабе працытаваць невялікі фрагмент дыскусіі.

Пытанне выдатнаму эканамісту ад пана вядучага: *«Дык корміць нас Расія, утрымлівае ці не ўтрымлівае?»*

Выдатны эканаміст: *«Дапусцім, Беларусь раптам узяла (такога не будзе) і сышла ў NATO, і Расіі давядзецца ствараць групоўку, каб процідзейнічаць NATO ў 400–500 тысяч салдат. Дзе яны набяруць столькі людзей, дзе тэхнікі, і ў колькі гэта стане? Я думаю, па цане гэта абыдзецца ў гадавы ВУП Беларусі, не менш»*.

Сур'ёзныя пытанні, пагадзіцеся. Аднак перш, чым паспрабаваць знайсці на іх адказы, я вырашыў атрымаць даведку — і патэлефанаваў сябру, спецыялісту па праблемах бяспекі, кіраўніку аналітычнага цэнтра Belarus Security Blog **Андрэю Паротнікаву**.

На думку эксперта, верхняя мяжа колькасці вайскоўцаў у Беларусі не перавышае 55 тысяч чалавек. Атрымліваецца, што эфектыўнасць аднаго беларускага абаронцы Радзімы амаль на парадак пераўзыходзіць эфектыўнасць расійскага…

Чым абумоўленая такая дыспрапорцыя ў ратным ККД? На ўзроўні фармальнай логікі тут магчымыя два варыянты адказу: або гэта выклікана фантастычным прагрэсам беларускай арміі за апошнія гады, або поўнай дэградацыяй арміі расійскай.

Але нешта мне падказвае, што параўноўваць крутасць дзвюх армій Саюзнай дзяржавы — справа няўдзячная. Прычыну дыспрапорцыі варта шукаць у «выдатным эканамісце», абцяжараным пачуццём адказнасці перад ідэалагічнай і іншымі вертыкалямі.

**Пра ролю культурнага героя**

*«Веды, якія не змяняюць паводзінаў, бескарысныя»*, — сцвярджае ізраільскі гісторык **Юваль Харары**, кнігі якога разыходзяцца шматмільённымі накладамі. Канчатковая мэта прапаганды якраз — змяненне паводзінаў. Пры гэтым зусім не абавязкова пад паводзінамі разумець набор пэўных учынкаў. Хутчэй наадварот: у нашы дні правільныя паводзіны азначаюць поўную адмову ад якой-небудзь самастойнай актыўнасці.

Гэта на досвітку савецкай улады Ленін разважаў пра «жывую творчасць масаў». Правадыр сусветнага пралетарыяту быў схільны падзяляць «асноўную памылку інтэлігенцыі», г. зн. веру ў здольнасць народа, калі яго вызваліць ад прыгнёту начальства і эксплуататараў, самастойна наладзіць сваё жыццё. Канкрэтнае ўвасабленне гэтай ідэі палягала ў ідэалізацыі Саветаў.

Аднак правадыр, калі сутыкнуўся з хаосам, спароджаным «трыумфальным шэсцем савецкай улады», быў вымушаны павярнуцца на 180 градусаў і заявіць, што «Саветы і дыктатура сумяшчальныя». Вынікам развароту і стала палітыка ваеннага камунізму.

Сталінская індустрыялізацыя запатрабавала максімальнай мабілізацыі энергіі масаў, але пад жорсткім кантролем «Ордэна мечаносцаў». Не выпадкова ў сацыялогіі савецкае грамадства прынята называць «грамадствам мабілізацыйнага тыпу». Перабудова падвяла рысу пад такім грамадствам. Таму не толькі беларускі, але практычна ўсе постсавецкія рэжымы (краіны Балтыі, зразумела, мы не лічым) спрабуюць сёння падтрымліваць стабільнасць не за кошт энергіі насельніцтва, а за кошт яго пасіўнасці.

Галоўная задача прапаганды пры гэтым зводзіцца да доказу адсутнасці адказу на пытанне: «Калі не ён, то хто?» Зразумела, што ў кожнай постсавецкай рэспубліцы знайшоўся свой «ён». У поўнай адпаведнасці з роляй культурнага героя ў міфалогіі, «ён» творча пераўтварае свет, лепіць яго з першабытнага (г.зн. постперабудовачнага) хаосу. Натуральна, з улікам нацыянальных асаблівасцяў канкрэтных рэспублік.

*«Міф*, — сцвярджае расійскі гісторык Уладзімір Булдакоў, — *вырастае на глебе агульнага страху перад варожым асяроддзем»*. Не ўпэўнены, што «выдатны эканаміст» знаёмы з гэтым выказваннем, але тое і не трэба. Яго 400–500 тысяч расійскіх вайскоўцаў, неабходных для замены 55 тысяч беларускіх вайскоўцаў — тыповы прыклад канструявання варожага акружэння. На фоне такой арыфметыкі любыя размовы пра нахлебніцтва выглядаюць недарэчнымі.

**Ад атамнага стагоддзя да інфармацыйнага**

Аднак працягну цытаваць Харары: *«Веды, якія змяняюць паводзіны, хутка губляюць актуальнасць»*. Гэтая азбучная ісціна знаёмая кожнаму прапагандысту нават і без падказкі ізраільскага гісторыка. Прапаганда — гэта як язда на ровары. Варта толькі перастаць круціць колы — і страта раўнавагі (стабільнасці) становіцца фактам, дадзеным веласіпедысту ў вельмі балючых адчуваннях.

Паўзы прапагандзе супрацьпаказаныя не толькі таму, што, парушаючы законы прыроды, яе колы здольныя круціцца паводле прынцыпу Perpetuum Mobile. Не, з законамі прыроды ўсё ў парадку. Бесперапыннасць жа руху забяспечваецца за кошт бюджэтных сродкаў, г. зн. сродкаў, якія канфіскуюцца «дзяржавай для народа» з кішэняў гэтага самага народа. А займацца гэтым не стамляецца кожная дзяржава.

Дваццатае стагоддзе было прынята называць «атамным», дваццаць першае — інфармацыйным. Адпаведна, і перамога ў супрацьстаянні паміж фізікамі і лірыкамі пачала схіляцца на карысць лірыкаў. *«Аналагічна капіталізму і камунізму, — тлумачыць Харары, — дэмакратыі і дыктатуры з'яўляюцца па сутнасці канкуруючымі механізмамі збору і аналізу інфармацыі. Дыктатарскія рэжымы выкарыстоўваюць цэнтралізаваныя метады, а дэмакратыі аддаюць перавагу размеркавальным. У апошнія дзесяцігоддзі дэмакратыі вырваліся наперад, таму што ва ўнікальных умовах канца XX стагоддзя размеркавальная апрацоўка даных аказалася эфектыўнейшай»*.

У мінулым, аднак, больш дзейснай была цэнтралізаваная. Прыкладаў гэтаму ў гісторыі мноства. У прыватнасці, таму была зруйнаваная Рымская Рэспубліка і ўлада перайшла ад сената ў рукі імператара-аўтакрата. Аналагічны пераход мы мелі магчымасць назіраць у Беларусі ў 1994 годзе…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

COVID-19

# «ИСХОДИТЕ ИЗ ТОГО, ЧТО ЛЮБАЯ ПРОСТУДА… — КОРОНАВИРУС»

**Павел Васюкевич, который сегодня работает в Германии анестезиологом-реаниматологом, объяснил, что не так с белорусской статистикой, из-за чего сейчас так важен карантин и почему не поможет закупка даже большого количества аппаратов ИВЛ.**

Уроженец Минска Павел Васюкевич записал видеообращение к белорусам, потому что, по его словам, не может спокойно смотреть на то, что сейчас происходит на родине.

— Считаю, что та ситуация, которая сложилась в Беларуси в противопоставление всему остальному миру, не совсем в порядке, — отмечает врач в беседе с журналистами «Салідарнасці»…

**«Почему в Беларуси не вводятся карантинные меры? По незнанию или по злому умыслу?»**

Врач возмущен тем, что в Беларуси по примеру других стран не вводят карантин. И объясняет, почему это нужно.

— В чем проблема этой инфекции? Все мы болели гриппом, любой другой простудой и все было окей. Но против всех простуд, которые циркулируют регулярно, у нас есть групповой иммунитет. Вы переболели одним штаммом гриппа — у вас выработался пожизненный иммунитет. Переболели другим — уже два. Та же беда и с коронавирусом, что, переболев им, приобретается иммунитет — пожизненный или нет — вопрос еще открыт.

Сегодня коронавирус — это та инфекция, против которой нет группового иммунитета.

— Это значит, что любой заразившийся болеет — неважно, легко, без осложнений, или нет. Но если человек, который является уже носителем вируса идет дальше, посещает кафе, футбольные матчи, которые идут только в Беларуси, идет кататься на лед, играть в хоккей, он разносит эту заразу, — поясняет Павел Васюкевич. — Этот вирус способен заразить любого, кто им еще не переболел. А так как на сегодня на земном шаре вирусом заразились лишь 700 тысяч из 7 миллиардов, значит, заразиться может еще очень много людей. Нет тупика, нет человека, на котором эта цепь прервется.

Врач объясняет, что карантинные меры нужны именно для того, чтобы не заболеть всем сразу одновременно.

— Система здравоохранения не резиновая. Она не способна переварить большое количество заболевших одномоментно, — поясняет врач. — Речь идет даже не о тысячах. Сто тяжелых больных — это достаточно внушительная цифра. В этом и есть смысл — уменьшить количество больных на конкретный момент времени, растянуть эту эпидемию на дольше, чтобы система

***(працяг на стар. 4)***

COVID-19

*(пачатак на стар. №3)*
здравоохранения могла переварить то количество больных, которое поступает — с чем сейчас не справляется Италия и Испания.

Поэтому страны и вводят карантинные меры. Где-то менее жесткие, ограничившись лишь закрытием общественных мест, где-то более жесткие, когда запрещено передвигаться по городу.

— Беларусь является грустным исключением, кто не ввел практически никаких ограничительных мер. По какой причине? По незнанию или по злому умыслу, не знаю. Но я вас прошу проявить сознательность, — призывает врач…

**«Это не значит, что надо нажраться, выпить 100 грамм, пойти в сауну и сесть на трактор»**

Павел Васюкевич предлагает исходить из того, что любая простуда должна быть сейчас расценена как коронавирус. Не потому, что это обязательно COVID-19, а для противоэпидмероприятий.

Врач дал советы, что каждый может сделать для себя, если у него появились симптомы простуды.

— Я предлагаю исходить из того, что любая простуда, которая у вас сейчас появилась — это коронавирус, — поясняет он. — Да и коронавирус — это заболевание в большинстве своем не смертельное, излечимое, и многие не заметят, что им переболели. Если у вас появились какие-либо симптомы простуды, температура 37, першит в горле, насморк — оставайтесь дома. Организм здорового человека, если ему создать минимально оптимальные условия, справится сам.

Однако врач в беседе с журналистами «Салідарнасці» подчеркивает, что речь именно о легком течении болезни у здоровых людей и людей с хорошо контролируемыми медикаментозно хроническими заболеваниями в стадии ремиссии.

При этом отмечает: не все правильно понимают, что значит создать оптимальные условия для выздоровления.

— Это не значит, что надо нажраться, выпить 100 грамм, пойти в сауну и сесть на трактор. Это все прекрасно, когда вы здоровы. Когда же организм болеет — это только навредит. Баней вы обезвоживаете организм, сбиваете терморегуляцию, то же самое с обтиранием, с контрастным душем — это не работает. Во время заболевания забудьте о мерах закаливания — это поздно.

Первое и главное, что надо сделать, в этом случае — это оставаться дома. "Если вы выйдете из дома, то вы заразите следующего человека, — отмечает врач."

**«Идти в больницу с температурой 37 — это преступление»**

Доктор также не советует идти в поликлинику, если симптомы болезни легкие. При этом он призывает остаться дома, при необходимости попытаться получить больничный по телефону, а работодателям позволить человеку не приходить с температурой 37, не требовать лишних документов.

— Не нагружайте поликлинику. Потраченное на вас время врачи могли бы потратить на человека, который задыхается, которому нужно действительно экстренно оказать медицинскую помощь. Вы сами себе можете помочь больше, чем система здравоохранения, которая может начать захлебываться от больных.

При легком течении болезни врач советует сначала попытаться справиться с ситуацией самостоятельно. И если не получится, тогда обращаться к медикам…

**Что делать, если вы заболели и остаетесь дома. Советы врача**

Проветривайте и увлажняйте воздух. Температура должна быть приближена к 20 градусам.

Максимально ограничьте контакт с домашними. Если вы заболели, именно вы должны носить маску.

Много пейте (этот пункт не касается людей с почечной и сердечной недостаточностью и хроническими заболеваниями). Сухой язык, сухие покровы кожи свидетельствуют, что у вас нарушен питьевой режим.

Контролируйте также мочеиспускание. Если моча темного цвета — значит, питьевой режим нарушен и надо больше пить.

Ешьте пищу с легко усваиваемыми углеводами (например, каши). Если нет аппетита, тогда пейте сладкие напитки (морсы, компоты, сладкие чаи) — именно глюкоза является источником энергии. Похудение оставьте на потом.

Не лежите, даже если вам сложно передвигаться. При движении вы стимулируете отхаркивание мокроты и очищаете дыхательные пути от скопившейся там слизи. Это важно, так как грозным осложнением коронавируса является пневмония.

Контролируйте температуру, частоту дыхания, сердечных сокращений, артериальное давление.

Сбивайте температуру жаропонижающими препаратами в стандартной дозировке. Помните, лекарств от коронавируса нет! Если температура не снижается, проконтролируйте свой питьевой режим — в обезвоженном организме препарат не будет работать. Если же с питьевым режимом все хорошо, а температура не снижается — это уже повод обратиться к врачу…

*(скарочана)*

**gazetaby.com**

# КОРОНАВИРУС НАСТУПАЕТ. ЛУКАШЕНКО ЗАПАЗДЫВАЕТ?

**Эксперты: чем раньше предпринять более широкие меры противодействия эпидемии, тем больше жизней белорусов можно сохранить... Уже 13 жертв забрал коронавирус в Беларуси. А общее число инфицированных, по официальным данным на 6 апреля, достигло 700. Белорусскому руководству явно пора менять тон. А главное, по мнению многих (и не только обывателей, но и экспертов) — более решительно действовать.**

«305 человек [зараженных коронавирусом] по всей стране — это мизер!» — заявлял Александр Лукашенко в минувшую пятницу. Он также возмутился, что «шумиху подняли по поводу четверых умерших». Причем официальный лидер в последних выступлениях обрисовывал дело так, будто едва ли не сами умершие виноваты в собственной кончине: кто-то зря ходил по улице, кто-то много весил, да и вообще — возраст, что вы хотите...

Но цифры угрожающе растут, и бросаться словами типа «мизер» главе «государства для народа» чем дальше, тем рискованнее.

**Президент терпит пиаровское поражение**

Сегодня президент не отметился никакими публичными заявлениями на тему вируса. Будет интересно проследить за эволюцией его риторики. Под влиянием медицинской статистики и общественного резонанса наверху, вероятно, идет некий процесс осмысления грозной реальности и возможной плачевной перспективы.

Даже если брать чисто пиаровский аспект, то продолжать бравировать, твердить о мировом психозе и раздавать сомнительные профилактические советы в духе «баня, водка, гармонь и лосось» означает все больше раздражать уже всерьез испугавшееся общество. Причем замечаниями, что у жертв COVID-19 были букет болезней, излишний вес, изрядный возраст, Лукашенко задевает свой ядерный электорат.

При том что режим авторитарный, некая обратная связь все же работает. Наверху наверняка изучают социологические данные, доклады спецслужб о настроениях, в конце концов, мониторят независимые СМИ и соцсети.

Социология — взять свежее исследование SATIO — показывает, что большинство населения выступает за более жесткие меры противодействия вирусу. Родственники умерших от COVID-19, задетые замалчиванием, полуправдой, сами выходят на прессу, афишируют истории жертв пандемии. А по социальным сетям прокатился сатирический флешмоб: белорусы стали писать якобы от имени президента уничижительные некрологи о самих себе. В духе: никчемный человечишка, не так жил, сам виноват, что склеил ласты.

Все это говорит о том, что официальный лидер, избравший задиристо-высокомерную тональность по отношению к пандемии и людям, терпит жестокое пиаровское поражение.

**Аналитик: власти Беларуси рисуют ложную дилемму**

Лукашенко и его подчиненные не скрывают, что, взяв на вооружение в условиях пандемии принцип «торопись медленно», пекутся об интересах производства. Мол, как ты будешь доить коров на удаленке.

Но представление, что у белорусских властей лишь два варианта действий — «либо актуальный набор мер, либо широкий карантин с остановкой всего и вся — это ложная дилемма», заявил в комментарии для Naviny.by директор аналитического центра EAST (Варшава) Андрей Елисеев.

По его словам, есть различные меры, которые наносят минимальный ущерб экономике и при этом позволяют сократить число межчеловеческих контактов и таким образом замедлить распространение эпидемии. «Это просто отказ от массовых мероприятий, своевременное закрытие учебных заведений, дополнительные миры социального дистанцирования людей», — пояснил аналитик.

На днях он опубликовал доклад «Коронавирусная эпидемия: сценарии последствий для Беларуси». В нем отмечается, что в отличие от большинства стран, избравших жесткие меры противодействия пандемии, Сингапур и Южная Корея, как и Беларусь, избрали стратегию быстрой изоляции заболевших, а также отслеживания контактов заболевших и наблюдения за ними.

Но при этом Сингапур и Южная Корея более эффективно диагностируют случаи коронавирусной инфекции и отслеживают контакты заболевших, применяют более эффективную систему изоляции, активно используют новейшие технологии и т.д. Наконец, там намного выше уровень доверия властям, чему способствует хорошее информирование общественности о развитии ситуации с COVID-19.

К слову, уже после выхода доклада Сингапур ужесточил меры борьбы с вирусом…

**COVID-19 может сильно подмочить президентскую репутацию**

С одной стороны, не собрала «пятая колонна» подписи — ну и черт с ней, властям только облегчение. С другой стороны, имитировать выборы в компании с парой откровенно картонных персонажей для Лукашенко как-то совсем уж несолидно.

Главное же — как будет развиваться ситуация с COVID-19. Если по мрачному варианту, то бессменный президент с его подходом в духе «весь мир свихнулся, одни мы умные» рискует сильно упасть в глазах электората. Да, под предлогом пандемии можно развязать руки силовикам, жестче пресекать в зародыше протесты, но это не укрепит авторитет Лукашенко ни в глазах белорусов, ни в глазах Запада. А ведь границы рано или поздно снова откроются и вообще понадобится западная помощь — и в противостоянии с Россией, и в ликвидации последствий кризиса.

А может, станет так худо, что наверху решат вообще перенести кампанию?

«Власти пока не видят оснований для переноса президентских выборов в принципе, потому что хотят решать проблемы по мере их поступления. До сих пор ситуация с эпидемией воспринималась как нечто не очень опасное», — заявил в комментарии для Naviny.by политический обозреватель Павлюк Быковский.

По его словам, сейчас «понимание опасности, скорее всего, появляется». Вместе с тем «если вводить какие-то специальные режимы, карантины, то ущерб, который будет наноситься бизнесу, людям, нужно будет как-то оплачивать», отмечает аналитик.

«Эти обязательства государство брать на себя не спешит. В этой ситуации вопрос с президентскими выборами, скорее всего, будет решаться в самый последний момент. А сейчас, скорее всего, решают, стоит ли проводить парад», — считает Быковский.

Да, вопрос о параде 9 мая сейчас, если хотите, становится для белорусского руководства этаким тестом на политическую адекватность. Пока подготовка к мероприятию, которое может стать колоссальным рассадником заразы, продолжается.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**"БЕЛАПАН"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 16.04.2020 у 18.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.